


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 9 (234) ЧЭРВЕНЬ 2017 ГОДА

БЕЛАРУСКІЯ АФАРЫЗМЫ

**Найсаладзей быць чалавекам унізе, чым варонай на вышыні**

*Уладзімір Лінскі*

ЭКАЛОГІЯ

## БАРШЧЭЎНІК ПЕРАМАГАЕ МЯСЦОВЫЯ ЎЛАДЫ

**Апошняя інфармацыя з дзяржаўных крыніц сведчыць, што баршчэўнік Сасноўскага амаль на трэць павялічыў папуляцыю ў паўночным рэгіёне Беларусі. І гэта пры тым, што з 2008 года вядзецца бюджэтнае фінансаванне барацьбы з прыродным монстрам, на якую быў выдаткаваны не адзін мільён даляраў.**

Тутэйшая бюракратыя дзеля абгрунтавання сваёй карыснасці ў накірунку барацьбы з баршчэўнікам Сасноўскага напрацавала дастаткова папер, каб ведаць як варта змагацца з прыродным монстрам, які найперш у Беларусі атакуе Віцебскую вобласць.

Яшчэ ў 2008 годзе беларускі ўрад прыняў «План дзеянняў па прадухіленні і мінімізацыі шкоды ад распаўсюджвання шкоднаснага чужароднага віду расліны — баршчэўніка Сасноўскага». Па гэтаму плану пачалося фінансаванне барацьбы з прыродным драпежнікам, у якога адна расліна можа даваць больш 100 тысяч семян у год.

У той час спецыялісты ў змаганні з баршчэўнікам сведчылі, што арэал яго распаўсюду складае на Віцебшчыне 43% ад плошчы займаемай дрпапежнікам у краіне. І гэта прыблізна каля 1500 га.

У 2009 годзе Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя выдала ў студзені пастанову № 2 «Аб некаторых пытаннях рэгулявання распаўсюджвання і колькасці відаў дзікарослых раслін», у якой прапанавала план змагання з інвазіўнымі раслінамі і ў асаблівасці з баршчэўнікам Сасноўскага на Беларусі.

Але прайшло амаль дзесяцігоддзе, калі штогод вылучаліся значныя бюджэтныя сродкі на фінансавання «змагання» з баршчэўнікам, толькі гэтыя грошы былі «выкінуты ў паветра». Апошняе сумеснае пасяджэнне Віцебскага абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і землеўпарадкавальнай службы Віцебскага аблвыканкаму засведчыла, што за апошняе дзесяцігоддзе плошча распаўсюду баршчэўніка на Віцебшчыне павялічылася з 1600 га да 2100 га — больш чым на 31% і дасягнула 74% ад агульнай плошчы баршчэўніка ў краіне.

«Віцебскія весці» ў сваёй інфармацыі з пасяджэння напісалі: «Больш за ўсё клопатаў баршчэўнік дастаўляе Ушацкаму раёну, дзе займае больш за 1 тыс. га, а гэта 50,7% ад агульнай плошчы яго распаўсюду на Віцебшчыне. У ліку найбольш пакутваючых ад інвазівнай расліны таксама Віцебскі (252 га, або 12%), Гарадоцкі (295 га, 11,8%), Браслаўскі (150,2 га, 7,3%) і Талачынскі (90,6 га, 45 %) раёны.»

Відавочна, што аўтары не звярнулі ўвагі на памылку пра плошчу баршчэўніка ў Гарадоцкім раёне, бо 295 га — гэта 14,0% ад 2100 га ўсёй плошчы монстра ў Віцебскай вобласці. Але і 245 га, як нядаўна напісала мясцовая газета, гэта значна больш, чым апошня гады казалі тутэйшыя эколагі пра распаўсюд баршчэўніка ў Гарадоцкім раёне. Нагадаем, што ўсе апошнія гады эколагі заяўлялі пра прыблізна 160 га баршчэўніка на Гарадоччыне. А тут за зімовы перыяд аказалася, што плошча вырасла да 245 га — амаль на 53%.

Таксама «Гарадоцкі веснік» паведамляе, што ўсяго выяўлена 519 месцаў росту баршчэўніка Сасноўскага: 95 месцаў у населеных пунктах плошчай 23,4 га, 152 месца на плошчы 45 га зямель сельскагаспадарчага прызначэння, 14 месцаў на плошчы 36,6 га на землях лясного фонду і не выяўлена месцаў на землях асабліва ахоўваемых тэрыторый і на тэрыторыях прылеглых да іх. Але нічога не паведамляецца пра тое дзе яшчэ размешчаны 258 пунктаў распаўсюду баршчэўніка на амаль 140 га.

Відавочна, што «змаганне» з баршчэўнікам і ў гэтым годзе будзе марным, калі не зменіцца механізм дзеянняў мясцовых уладаў у гэтай «барацьбе» з зялёным монстрам.

Найперш варта мець адкрыты рэсурс пра барацьбу з баршчэўнікам, дзе ў інтэрактыўнай форме было б бачна, як вядзецца змаганне з баршчэўнікаў ва Ўшацкім, Віцебскім, Гарадоцкім і іншых раёнах, якія цярпяць ад наступу драпежніка. Па другое, варта мець у адкрытым доступе інфармацыю пра канкрэтнае выкарыстанне адказнымі арганізацыямі бюджэтных сродкаў на змаганне з баршчэўнікам. Бо да гэтага часу падаткаплацельшчыкі не ведаюць, як гэтыя бюджэтныя грошы выкарыстоўваліся амаль 10 гадоў. Але бачна, што па вялікаму рахунку, яны ішлі на «падтрымку» баршчэўніка на Віцебшчыне.

**Леанід Гаравы**

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

СУЧАСНЫ ГАНДАЛЬ

## «ЕЎРАГАНДАЛЬ» ГАТОВЫ ПАБУДАВАЦЬ 15 КРАМАЎ

**Генеральны дырэктар ТАА «Еўрагандаль» Андрэй Зубкоў анансаваў план сеткі «Еўраапт» па стварэнню разгалінаванай сеткі гандля ў сельскай мясцовасці Беларусі. Дзеля гэтага павінна быць толькі згода мясцовай улады і выдзяленне зямлі пад краму.**

Генеральны дырэктар буйнейшай гандлёвай сеткі краіны паведаміў аб планах паляпшэння гандлёвага абслугоўвання сельскіх жыхароў краіны праз сетку «Еўраапта». План заключаецца ў тым, што ў населеных пунктах беларускай правінцыі вядучы рытэйлер Беларусі гатоў будаваць тыпавыя крамы плошчай 144кв.м. дзе пражывае больш 400 жыхароў, плошчай 82 кв.м., дзе пражывае ад 200 да 400 жыхароў і развіць сваю сетку аўтлавак для меншых населеных пунктаў Беларусі.

Кіраўніцтва ТАА «Еўрагандаль» адзначае тры асноўныя праблемы існуючай сеткі крамаў «Белкаапсаюза» ў сельскай мясцовасці. Па-першае, гэта значная зношанасць асноўных фондаў і адпаведна адсутнасць інвестыцый у вясковыя крамы. Па-другое, гэта абмежаваны асартымент тавараў у сельскіх крамах спажыўкааперацыі пры адсутнасці цэлых катэгорый тавараў: мяса, гародніны і г.д.. І трэццяя праблема, гэта вышэйшы кошт тавараў на 30% ў параўнанні з гарадскімі крамамі.

Разглядаючы сітуацыю з насельніцтвам выміраючых вёсак Гарадоччыны, магчыма прагназаваць, што пры згодзе дэпутатаў Гарадоцкага райсавета і кіраўніцтва Гарадоцкага райвыканкаму сетка «Еўраапт» гатовы пабудаваць крамы па 144 кв.м. у наступных пунктах Гарадоччыны: Езярышчы, Пальмінцы, Верамеўке, Бычысе, Мяжы і плошчай 82 кв.м. у Вархах, Кабішчы,Прудніках, Дуброва, Віраўлі, Халамер'і, Марчанках, Сцяпанавічах, Максімаўцы, Стадолішчы. Бо ў гэтых вёсках з ваколіцамі насельніцтва больш адпаведна 400 або 200 жыхароў. Пры гэтым генеральны дырэктар заяўляе, што пры выдзяленні мясцовай уладай зямельных участкаў крамы могуць быць пабудаваны за 2-3 месяцы, бо інвестыцыі пад гэту справу маюцца. Адпаведна астатнія маланаселныя вёскі могуць быць ахоплены гандлем з калёс. Пры гэтым прапануемы «Еўрааптам» гандаль з калёс адрозніваецца ад існуючага тым, што ў краму на калёсах 8-10 пакупнікоў можа зайсці.

Відавочна, што ў гэтай гісторыі галоўнае -- палітычная воля адзінага палітыка і спрыянне мясцовай улады, каб жыхары вёсак нарэшце маглі пазбавіцца савецкіх стандартаў гандля і атрымаць сучасную форму гандля пры большым асартыменце тавараў пры меншых коштах.

**Леанід Гаравы**

ЗДАРЭННЕ

## ДАПАМОГ ЗЛАВІЦЬ КРЫЎДЗІЦЕЛЯ

**Днём 10 чэрвеня ў дзяжурную частку Гарадоцкага РАУС паступіла паведамленне аб тым, што ў вёсцы Прнуднікі невядомы мужчына напаў на пенсіянерку.**

Ён прадаў ёй мяса па просьбе знаёмага. Калі жанчына разлічвалася за дастаўлены прадукт, то дастала значную суму грошай, і на наступны дзень мужчына вырашыў зноў наведацца да пенсіянеркі. Мужчына сказаў, што пасля куплі сялянка засталася павінна яму яшчэ некалькі рублёў. У той момант, калі жанчына дастала кашалёк, рабаўнік вырваў яго з рук і панёсся наўцёкі.

На крыкі жанчыны аб дапамозе прыбег зяць пацярпелай. Ён неадкладна выклікаў міліцыю і сам адправіўся на пошукі злачынца. Мужчына высачыў рабаўніка і скаардынаваў праваахоўнікаў на злоў зламысніка.

Хутка міліцыянты аддзялення Дэпартамента аховы затрымалі непрацуючага, які раней быў судзімы за крадзеж, мужчыну 1968 года нараджэння. Раённым аддзелам Следчага камітэта ў дачыненні да затрыманага ўзбуджаная крымінальная справа па ч.2 арт. 206 (рабаванне) КК Рэспублікі Беларусь. Цяпер рабаўніка можа чакаць пакаранне або з абмежаваннем волі да 5 гадоў, або пазбаўленне волі на тэрмін ад 2 да 6 гадоў.

**Паводле: http://uvd.vitebsk.gov.by**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

МЕДЫЦЫНА

# ПЛАТНЫХ ПАСЛУГАЎ СТАЛА АМАЛЬ 180 ВІДАЎ

**Пры канстытуцыйным дэклараванні бясплатнасці медыцыны ў Беларусі з кожным годам павялічваецца спектр медыцынскіх паслугаў якія становяцца платнымі ў бюджэтных установах аховы здароўя. На сёння ў Гарадоцкай цэнтральнай раённай бальніцы маецца 12 напрамкаў платных паслугаў, якія ахопліваюць амаль 180 відаў дапамогі пацыентам за грошы.**

Гарадоцкая цэнтральная раённая бальніца, як і іншыя дзяржаўныя установы аховы здароўя ў краіне, мае сваю наменклатуру платных паслугаў. Гэта сістэма паслугаў пачала складвацца з 90-х гадоў, калі пры дэклараванні бясплатнасці медыцыны пачалі з'яўляцца прыватныя медыцынскія установы, якія працуюць без дзяржаўнай падтрымкі за кошт аплаты паслугаў пацыентамі. Першымі ластаўкамі платнай медыцыны сталі стаматалагічныя паслугі. І на сёння ў Гарадоцкай бальніцы маецца 80 відаў стаматалагічных паслугаў на розных фазах лячэння зубоў. Кошт паслугаў менш, чым у прыватных стаматалогіях і вагаецца ў асноўным ад 2 да 5 рублёў за адзін аб'ект.

Платным ужо не адно дзесяцігоддзе з'яўляецца і праходжанне медыцынскай камісіі. Тут найменшай з'яўляеццa плата за праходжанне камісіі для працаўладкавання на прадпрыемства грамадскага харчавання, харчовай прамысловасці для жанчыны — 9,09 рублёў, а самая дарагая камісія таксама для жанчыны, калі яна вяртаецца на працу пасля адпачынку па догляду дзіцяці — 13,34 рубля.

Пры знаходжанні на лячэнне ў палатах павышанай камфортнасці, дзе маюцца тэлевізары, лядоўні кошт аднага ложка-дня без харчавання, медыцынскіх паслугаў і аднаразавай бялізны залежыць ад наяўнасці ацяплянльнага перыяду, калі кошты павялічваюцца за ложак-дзень і складае максімальна 5,70 ў дзіцячым аддзяленні ў ацяплянльны перыяд.

Гарадоцкая райбальніца прадастаўляе таксама 19 відаў паслугаў ультрагукавай і функцыянальнай дыягностыкі ў асноўным на чорна-белых ультрагукавых апаратах коштам ад 2,46 руб. да 5,28 руб. і на каляровых апаратах коштам 9,79 рубля. У бальніцы пацыентам таксама могуць аказвацца 26 відаў масажных паслугаў коштам ад 0,94 руб. да 2,24 руб.

Пацыенты таксама могуць прайсці платна первічны і паўторны лячэбна-дыягнастычны прыём у 11 спецыялістаў райбальніцы пры коштах ад 2,00 руб. паўторнага прыёма ў неўролага да 8,85 руб. пры первічным аглядзе ў эндакрынолага.

Зразумела, што многія гэтыя паслугі аказваюцца бясплатна пры наяўнасці захворванняў і паказаннях на лячэнне або дыягностыку ад лекара. Так па напраўленнях пацыенты звычайна здаюць бясплатна аналізы, якія маюць свой кошт у паслугах райбальніцы. Напрыклад кошт агульнага аналіза крыві каштуе 4,59 руб., а біяхімічны аналіз ужо 17,38. Але ж тое ж выдаленне серных пробак зараз платнае і мае кошт для аднаго вуха 7,81 руб., а для двух — 14,21 руб.

Гэтыя кошты датычацца грамадзян Рэспублікі Беларусь, а для замежнікаў яны іншыя. Праўда, зараз на сайце Гарадоцкай райбальніцы іх няма.

**Л. Антонаў**
**паводле: www.gorodokcrb.by**

АСОБА

# АННА ПОДНИМАЕТ ФАБРИКУ ПОСЛЕ ЗАКЛЮЧЕНИЯ

**13 июня ровно год, как на Витебскую бройлерную фабрику после почти двух лет заключения вернулась гендиректор Анна Норкус (до замужества — Шарейко). 10 июня 2016 года руководителя освободили в зале Верховного суда, и она вернулась на работу. Дела на фабрике шли незавидно. Но за год гендиректор и ее команда добились успехов. В интервью TUT.BY Анна Норкус рассказала о любимой фабрике, муже и своем увлечении спортом.**

***— Анна Васильевна, в каком положении вы приняли фабрику год назад? И как вы оцениваете ситуацию на сегодняшний день, что изменилось?***

— Ситуация была такая: птицу кормят с перебоями, сырья нет, долги... На столе лежат кипы листов с требованием уплатить. Я попросила у банков деньги на текущую деятельность. Банки мне поверили: за время моей работы у предприятия ни разу не было просрочки по платежам. Сидела и сутками решала кредитные вопросы с банками, а также просила всех, кому мы должны, отозвать свои бумаги. Дала честное слово, что верну деньги, и составила графики погашения долгов. И мы это выдержали, никого не подвели. Сейчас долги 2015 года полностью погашены. А это были миллионы! Наша репутация восстановилась.

Сегодня фабрика представляет собой огромный холдинг. В его составе кроме замкнутого цикла производства — собственный комбикормовый завод, который открылся в ноябре 2016 года. Этому заводу я посвятила 2 года до того, как меня забрали. Его строительство стоило много пота и крови. После возвращения мы сумели его запустить. Сейчас он кормит всю фабрику. И это совсем другая экономика: если раньше комбикорма покупали, то сейчас они у нас свои.

Еще до нашего с коллегами задержания (кроме гендиректора были арестованы три ее заместителя. — Прим. TUT.BY) была разработана программа развития предприятия до 2020 года с увеличением мощности на 50%. С возвращением на фабрику мы вернулись к этой программе, откорректировали ее и уверенно реализуем. При этом усиленно прорабатываем рынки сбыта — на Ближнем Востоке, в Китае, Казахстане, Украине. Пока же основной рынок сбыта — Беларусь и Украина.

Сегодня на рынке — переизбыток мяса птицы. И нужно разумно подходить к объемам продукции, чтобы не продавать потом ее за бесценок. Мы делаем ставку не на торговлю тушкой птицы, а на углубленную переработку продукции, так как она востребована и дает добавочную прибыль. Но самое главное, над чем мы работаем сейчас, — экономическая эффективность производства. От этого зависят и налоги, и выплата зарплаты, и развитие фабрики.

**О конкуренции**

***— В СМИ появляется информация, что вам не удалось ликвидировать последствия своего ареста, что предприятие, которое до вашего задержания удерживало на отечественном рынке третью позицию, сейчас на пятом месте и что на фабрике упали объемы производства.***

— В этой статье были данные за квартал. Но главное — это результаты работы за год. И важна, в первую очередь, финансовая эффективность. Если за 4 месяца 2016-го убыток по предприятию составлял 1,1 млн рублей, то за такой же период 2017-го — чистая прибыль в размере 4,8 млн рублей. Выручка увеличилась на 120,2%, а прибыль от реализации — в 20,9 раза. Рентабельность продаж с показателя 0,06% (за 4 месяца 2016-го) выросла до 11% за такой же период этого года.

Что касается производственных показателей, то они уже есть за 5 месяцев нынешнего года. Валовое производство птицы в живом весе к уровню прошлого года выросло на 7,1%, а валовое производство молока — на 5,2%. За 5 месяцев 2017 года по сравнению с таким же периодом 2016-го поставка продукции углубленной переработки мяса птицы на потребительский рынок выросла почти на 29%.

Сейчас мы вернулись к тем объемам производства, которые были 2 года назад. Но вообще это некорректно — сравнивать игроков на рынке только по этому показателю. В заметке, которая критикует нашу работу на сайте «Завтра твоей страны», идет речь о том, что «темпы роста производства к первому кварталу 2016 года составили 98%». Два месяца прошло — и мы уже приросли на 5%.

…Продукция птицефабрик мигрирует по всей республике. И это нормальная, здоровая конкуренция. Считаю, что мы успешно конкурируем с «Агрокомбинатом «Дзержинский», «Серволюкс-Агро». Нужно дать работать всем предприятиям, места под солнцем нам хватит. А покупатель сам выберет, кто лучше.

**О зарплате и фирменной торговле**

***— Сколько зарабатывают работники фабрики?***

— Средняя зарплата на предприятии за 4 месяца этого года по сравнению с аналогичным периодом 2016-го увеличилась на 26,4% и составила 827,3 рубля. (В октябре 2016-го средняя зарплата в Витебском районе, на территории которого находится бройлерная фабрика, составляла 593,8 рубля. — Прим. TUT.BY).

При этом фабрика создала 64 новых рабочих места — в основном к нам пришли новые специалисты в сферах торговли, продаж, строительства. Когда 2 года ничего не строили, то пришлось сократить почти 300 строителей. В целом же на фабрике сейчас работает более 3,3 тысячи человек.

Хочу отметить: несмотря на то, что на рынок в последние 3 года пришли крупные сети, наша фирменная торговля устояла и работает с прибылью. И мы ее развиваем дальше. В день мы производим до 200 тонн мяса. Это 10 фур. При этом на фабрике нет затаренности продукцией. Остатки на складах — просто рабочие.

**О новых рынках сбыта**

— Специалисты фабрики много ездят и смотрят, что происходит в отрасли птицеводства в мире. Допустим, в Объединенных Арабских Эмиратах востребована маленькая тушка — 1–1,2 кг, а у нас другой менталитет — нам нужна большая. Пришли к выводу, что эмиратский рынок можно осваивать. А Китай — это огромная ниша, туда можно поставлять и поставлять, рынок там просто сумасшедший! Надеюсь, что у нас завяжется эта работа.

В конце июня китайцы приедут к нам с инспектированием. Если мы получим сертификат, останется наработать контракты, проработать вопрос цен и логистику. Расстояние не пугает: полуфабрикаты быстрого приготовления замораживаются и успешно хранятся. Кроме того, можно рассматривать и доставку самолетом.

Сейчас мы разрабатываем новые специи и добавки, которые понравятся китайцам. Нужен один хороший специфический маринад с кисло-сладким вкусом. То есть в итоге должна получиться продукция, понятная жителям этой страны.

**О команде**

***— Когда вас арестовали, люди плакали и не верили в вашу виновность. Когда вернулись, работники встретили вас караваем, цветами, шариками и праздничным плакатом. А сейчас видно, что народ воспрял духом. Как вам удалось выработать такой стиль управления? И как удалось за год добиться заметных сдвигов?***

— У нас слаженная команда, в которой каждый понимает, что нужно делать. Вспомнился случай. В 2006 году в Витебский район пришел ураган. Было пять часов дня, люди с фабрики только уехали домой. А я вижу, что ураган раскрыл крыши на каждом здании. Подняла на ноги всех, и за час здесь собралось полфабрики, и работали все службы области. За ночь мы накрыли все 30 птичников. Эта чрезвычайная ситуация показала, что это та команда, которая умеет мобилизоваться в экстренной ситуации.

После возвращения на фабрику была та же ситуация — времени на размышления не было.

Я работаю на фабрике 34 года. Мне известен здесь каждый винтик, каждый болтик и каждая гаечка — где и на что нажать. Рабочий день начинается с анализа информации в компьютере. Прихожу, а у меня уже есть все данные, вплоть до цифр взвешивания цыплят в каждом зале. А когда ты знаешь все тонкости, можно принять правильное управленческое решение.

***— Основные трудности — позади. Но дух перевести, наверное, все равно не получается?***

— Покой нам только снится. Разработана программа развития фабрики до 2020 года, о которой я уже говорила.

Программа предусматривает комплекс объектов. В частности, планируем построить новые площадки цеха по выращиванию племенной птицы и цеха родительского стада — чтобы обеспечить себя инкубационным яйцом.

Но самый важный для нас сейчас объект — новый убойный цех. У нас все время идет свежая охлажденная продукция, убоя птицы нет только два дня в месяц. Старый цех уже самортизирован, но его не закроем — сделаем реконструкцию под производство продуктов углубленной переработки. Ведем работу по реконструкции молочно-товарного комплекса в «Агрокомплексе имени Шмырева» — под содержание дойного стада до 1200 голов, а также по строительству двух зерносушильных комплексов с элеваторами по 20 тысяч тонн.

И работа по некоторым объектам уже идет: отводятся участки, делается предпроектная подготовка. Кроме того, мы возобновили модернизацию цеха утилизации боенских отходов. Запустим его к концу года.

*(скарочана)*

**Татьяна Матвеева**
**TUT.BY**

ПОСТПРАЎДА

# ПРАПАГАНДЫСЦКІ ПУХІР ЛОПНУЎ

**Ну вось і фініта ля камэдыя. КДБ паведаміла, што крымінальная справа па артыкуле за «падрыхтоўку масавых беспарадкаў» спыненая. То бок, ніякай падрыхтоўкі да масавых беспарадкаў не было. І гэта азначае, што тры месяца нам казалі няпраўду. І сам Лукашэнка, і КДБ, і БТ, і «Советская Белоруссия».**

Памятаеце, як нам доўга і падрабязна апавядалі і паказвалі, што джып са зброяй з тэрыторыі Украіны прарываўся праз украінска-беларускую мяжу? Праўда, украінскія памежнікі з самага пачатку абвергкі гэтую інфармацыю. Аднак беларускія ўлады настойвалі, запэўнівалі, што двое злачынцаў арыштавана, ловяць трэцяга. Але нешта больш нічога пра гэтую гісторыю не чутна, ніякага крымінальнага працягу яна не мела. Мусіць трэцяга так і не злавілі, а двое затрыманых зьбеглі.

Асобная гісторыя пра звышпатрыятычную фраў А., якая мужна раскрыла змову, падрабязна апавядала, як баевікі рыхтуюцца да масавых беспарадкаў. Сам Лукашэнка спасылаўся на яе аўтарытэтнае сьведчаньне. Дык што, атрымоўваецца, што ўсё відэа пра жанчыну, якая размаўляе на дрэннай расейскай мове — гэта танны спэктакль?

Ці сюжэт пра «кактэйлі Молатава», бутэлькі з гаручай сумесьсю, якія нібыта былі знойдзены ў машыне кіроўцы Статкевіча Сяргея Кунцэвіча. Яго шмат разоў паказвалі па БТ. Цяпер высьвятляецца, што гэта фэйк.

Калі журналісты задалі па гэтаму эпізоду прамое пытаньне кіраўніку КДБ Валерыю Вакульчыку 13 чэрвеня падчас знаходжаньня яго ў парлямэнце, то атрымалі фэнамэнальны адказ: «Юрыдычна сьледчыя не знайшлі доказаў, нягледзячы на тое, што ў яго машыне было гэта» (!)

Гэта як? Бутэлькі з гаручай сумесьсю зьяўляюцца доказам ці не доказам злачынства ў залежнасьці ад палітычнай мэтазгоднасьці?

Пасьля гэтага як можна верыць у інфармацыю Вакульчыка, што летась паводле падазрэньня ў тэрарызме былі затрыманыя 17 чалавек, у 2015-м годзе — 21 чалавек, а з пачатку бягучага года ў Беларусі затрымалі васьмярых? Адразу ж узьнікае вялікае падазрэньне, што гэта такія ж тэрарысты, як «баевікі» зь «Белага легіёну».

Праўда, адзін раз спадар Вакульчык падчас гэтай імправізаванай прэсавай канфэрэнцыі быў шчырым. Распытваючы пра справу «Белага легіёну», журналісты спыталі старшыню КДБ: «Вы ўпэўненыя, што справа дойдзе да суду?» — «Прабачце, гэта не я вырашаю», — адказаў Вакульчык. Што зразумела. Справа ж палітычная, а палітычныя рашэньні ў краіне прымае не старшыня КДБ, а зусім іншы чалавек.

Ня думаю, што шмат людзей паверыла ва ўсю гэтую прапагандысцкую кампанію. Бо яна пачалася ў момант, калі на тле акцый недаммаедаў давер да ўлады ў масавай сьвядомасьці быў нізкі. Да таго ж з самага пачатку гэтая справа выглядала вельмі штучна, нязграбна і абсурдна.

Зразумелая, памяць на палітычную інфармацыю ў большасьці абываецеляў кароткая. Тым ня менш, уся гэтая фэйкавая гісторыя пра падрыхтоўку масавых беспарадкаў разбурае давер да асноўных дзяржаўных інстытутаў. Высьвятляецца, што нельга верыць ні прэзыдэнту, ні КДБ, ні БТ, ні галоўнай прэзыдэнцкай газэце. Ці варта казаць, што ніхто зь іх не пакаяцца за падман.

На жаль, гэта сёньня сусьветная праблема. Палітыкі падчас палітычных кампаній верзяць адкрытую лухту. Іх абвяргаюць, прыводзяць неабвержныя доказы, што яны абманшчыкі. І што, гэтыя палітыкі з ганьбай зыходзяць з палітычнай арэны? Ды не, яны часта аказваюцца пераможцамі. Філёзафы кажуць пра тое, што сьвет уступіў у эпоху постпраўды. Беларусь у гэтую эпоху ўступіла даўно, яна ідзе ў авангардзе.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

ТАКІ РУХ

# ДЗВЕ ДАРОГІ Ў АДНО МЕСЦА

**Так званыя «знешнія фактары» аднолькава настойліва грукаюцца ў дзверы алігархічнага капіталізму ў Расіі і рынкавага сацыялізму ў Беларусі.**

**Мы ішлі, ішлі...**

З тым, што беларусы і рускія з'яўляюцца дзвюма галінамі аднаго народа, згодныя каля 70% суайчыннікаў. На працягу многіх гадоў гэтую ісціну пацвярджалі сацыёлагі НІСЭПД. Тым не менш у пачатку 1990-х гадоў кожная «галіна» пайшла сваёй дарогай да рынку і дэмакратыі.

На думку адзінага палітыка (АП), якую ён падрабязна выклаў у сакавіку 2003 года на ідэалагічным семінары, Расія адмовілася ад ролі лідара ўсходнееўразійскай цывілізацыі. «Дый у тэхналагічным, эканамічным плане яна не можа лічыцца для нас прыкладам. Справа ў тым, што вартасць, багацце Расіі — яе нетры — адчужаныя ад народа і сталі крыніцай яе бедаў як у матэрыяльнай, так і ў духоўнай сферы», — канстатаваў АП.

Палітычная эліта «старэйшага брата», што падсілкоўваецца сыравіннымі алігархамі, зарыентавала краіну на неаліберальныя каштоўнасці, спіс якіх адкрывае яскрава выражаны індывідуалізм і бездухоўнасць. Цікава, як бы на падобныя адкрыцці адрэагавалі расіяне, якія паўсталі пасля «Крымнаш» з каленяў? Чый узровень духоўнасці сёння вышэйшы?

Аднак я адышоў ад тэмы. У пачатку 1990-х гадоў Расія абрала шлях бандыцкага капіталізму. Вынік вядомы — жахлівая карупцыя, жорсткая ломка ўсіх сацыяльных асноў, што катком праехалася па лёсах мільёнаў людзей. Беларускі шлях — гэта шлях паступовых пераўтварэнняў «ад жыцця». Прамежкавым вынікам пры руху па гэтым шляху стала сацыяльная мадэль, здольная надзейна абараніць простага грамадзяніна.

«Мы будавалі, будавалі і нарэшце пабудавалі. Ура!» Аўтар гэтага афарызму — Чабурашка. Але калі аптымізм мультыплікацыйнага персанажа перанесці на беларускую эканамічную рэальнасць, дык слова «будавалі» варта было б замяніць на слова «ішлі». Наколькі пры гэтым гарманічна глядзеўся б выклічнік «Ура!» — пытанне спрэчнае.

Колькі людзей — столькі меркаванняў. Таму абмяжуюся меркаваннем АП, якое ён выказаў у Пасланні–2017: «Я ўжо казаў: іншага такога года не будзе, мы знаходзімся каля небяспечнай рысы, пераступіць якую не можам. Не зробім хоць бы паўкроку наперад — баюся нават казаць, што можа адбыцца».

Мы ішлі, ішлі і нарэшце прыйшлі. Ура!

**Будучыня надыдзе для ўсіх**

«Небяспечная рыса», «Узбочына гісторыі» — гэта далёка не поўны пералік магчымых назваў станцый, да якіх мы дайшлі пад кіраўніцтвам АП, і — што важна — сам АП гэтыя назвы і прапанаваў.

Асабіста я для апісання сучаснага стану беларускай мадэлі аддаваў бы перавагу выкарыстанню вобразу гістарычнага вазка, з якога мы вывальваемся (вываліліся). Аднак днямі, пасля знаёмства ў інтэрнэце з лекцыяй палітолага Кацярыны Шульман, я быў вымушаны скарэктаваць сваё ўяўленні. І справа не ў тым, што гістарычны вазок мне давялося замяніць на цягнік. З гэтай заменай я лёгка змірыўся. Значна важней — тэзіс аб прынцыповай немагчымасці з цягніка сысці.

Усе народы, сцвярджае Шульман, едуць у адным цягніку. Будучыня наступіць для ўсіх. Яе не пазбегнуць. Адрозненне толькі ў месцах: камусьці дасталася бакоўка каля прыбіральні, хтосьці едзе ў СВ (спальным вагоне).

Чацвёртай прамысловай рэвалюцыі з яе пераходам ад пятага тэхналагічнага ўкладу да шостага ніхто не зможа пазбегнуць. Вось толькі рабатызацыя вытворчасці, штучны інтэлект і іншыя навукова-тэхнічныя прыбамбасы, што падвысяць узровень жыццёвага камфорту для адных, іншых паставяць на мяжу фізічнага выжывання.

Праілюструю на прыкладзе.




У верасні 2016 года нямецкая фармацэўтычная кампанія «Bayer» набыла найбуйнейшага амерыканскага вытворцу насення — кампанію «Monsanto» за $ 66 мільярдаў (кошт «Газпрома»).

У пачатку 1980-х гадоў навукоўцы «Monsanto» адным з першых здолелі мадыфікаваць гены расліны і з тых часоў працягваюць развіваць тэхналогіі, якія дазваляюць сельскагаспадарчым культурам даваць большы ўраджай, патрабаваць менш пестыцыдаў і скарачаць эрозію глебаў.

Адзін з самых прыбытковых праектаў «Monsanto» — вытворчасць двух прадуктаў: гербіцыду гліфасат і генетычна мадыфікаванага насення, устойлівага да гліфасату, што дае магчымасць фермерам выкарыстоўваць хімікат, які гарантавана забівае пустазелле, але не кранае карысныя культуры.

Можна быць ідэйным праціўнікам ГМА (генетычна мадыфікаваных арганізмаў). Сілком вырошчваць іх, а тым больш ужываць у ежу, ніхто не прымушае, але будучыня наступіць для ўсіх. Для новай транснацыянальнай кампаніі старт у будучыню пачынаецца з кантролю над 30% сусветнага ўраджаю. Нескладана здагадацца, якой яна апынецца для прыхільнікаў савецкіх ГОСТ.

Яшчэ адзін прыклад. 13 мая Уладзімір Пуцін падпісаў Стратэгію эканамічнай бяспекі Расіі на перыяд да 2030 года. У дакуменце пералічаныя 25 пагроз і выклікаў. Сярод іх «імкненне развітых дзяржаў выкарыстоўваць свае перавагі ва ўзроўні развіцця эканомікі, высокіх тэхналогій... у якасці інструмента глабальнай канкурэнцыі». Вось такія яны, развітыя краіны, вынаходзяць тэхналогіі, каб замацаваць за сабой права ехаць у СВ ды выштурхаць астатніх на бакоўкі каля прыбіральні…

**Праблема рэйтынгу**

Што ў такіх умовах застаецца рабіць кіраўнікам дзяржаў, якія гібеюць на бакоўках каля прыбіральні? Адказ на гэтае пытанне — не таямніца. Неабходна пераключыць увагу насельніцтва з унутраных праблем на знешнія.

Паводле аб'ектыўных прычын, Пуціну гэта пераключэнне здзейсніць прасцей, чым яго беларускаму калегу. «У Расіі, — тлумачыць журналіст Сямён Навапрудны, — ёсць тое, чаго няма ў Беларусі, — фундаментальны і імперскі комплекс, які ляжыць у аснове рэчаіснасці: мы — вялікая дзяржава, а вакол ворагі, аднак мы можам адпомсціць у любым куточку свету. Таму, калі глядзіш расійскае тэлебачанне, бачыш, што расіяне жывуць не ў Расіі, а заклапочаныя праблемамі Украіны, Сірыі, Захаду. Гэта такая прыдумка — эвакуяваць расіян з краіны, каб не паказваць падзенне даходаў, эканамічны тупік».

Г.зн. Пуцін мае магчымасць не толькі дамагацца згуртавання расіян «вакол сцяга», палохаючы знешняй пагрозай, але і дэманстрацыяй ваеннай моцы, выклікаць масавы рост пачуцця ўласнай значнасці і адчування велічы Расіі, якая адраджаецца (паводле красавіцкага апытання ВЦИОМ, 86% грамадзян РФ лічаць, што Расія з'яўляецца ўплывовай дзяржавай на сусветнай арэне).

У арсенале АП толькі «жахалкі». Адсюль праблема рэйтынгу. У АП яго сувязь з дынамікай даходаў насельніцтва істотна вышэйшая, чым у Пуціна. Таму не варта здзіўляцца чарговаму патрабаванню павысіць сярэдні заробак беларусаў да 500 долараў.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

УГОДКІ БЫКАВА

# ПЕРАМОГ ЗЬМІЦЕР ДАШКЕВІЧ

**17 чэрвеня ў вёсцы Бычкі Вушацкага раёну прайшлі ўрачыстасьці да 93-х угодкаў пісьменьніка. Як і ў мінулыя гады, сёлетнія ўрачыстасьці на радзіме Васіля Быкава традыцыйна ладзілі віцебская абласная філія Таварыства беларускай мовы і рух «За свабоду».**

На падворку сядзібы-музэя Васіля Быкава сабраліся аматары беларускай літаратуры з усіх рэгіёнаў, аднавяскоўцы, а таксама вядомыя палітыкі, грамадзкія дзеячы, творчая інтэлігенцыя.

Быў названы сёлетні ляўрэат прэміі імя Васіля Быкава «За свабоду думкі», імя якога традыцыйна абвяшчаюць на Віцебшчыне — на імпрэзах да дня народзінаў славутага пісьменьніка-земляка. Сёлета гэтым пачэсным званьнем уганараваны лідэр «Маладога фронту» Зьміцер Дашкевіч.

Палітык адзначаны за кампанію абароны Курапатаў, узнагароду ён атрымаў з рук краязнаўкі Ады Райчонак, у мінулым таксама ляўрэаткі прэміі.

Прэмія «За свабоду думкі» існуе з 2008 году, за гэты час яе атрымлівалі славутыя паэты Рыгор Барадулін і Ніл Гілевіч, пісьменьнік Уладзімер Арлоў, літаратары і палітыкі Ўладзімер Някляеў і Павал Севярынец, мастакі Алесь Пушкін і Алесь Марачкін, краязнаўцы Ада Райчонак і Алесь Белакоз, музыка Лявон Вольскі, сьпевакі-барды Зьміцер Вайцюшкевіч і Віктар Шалкевіч. Рэжысэр Валеры Мазынскі атрымаў дыплём ляўрэата летась.

Як адзначыў падчас урачыстай цырымоніі заснавальнік руху «За свабоду» Аляксандр Мілінкевіч, сёлетняя прэмія юбілейная, яна ўручаецца дзясяты раз. «Калінекаторыя беларусы сёньня наракаюць на праблемы, якія перашкаджаюць жыць, то ўсе нашы ляўрэаты адказваюць выклікам рэальнымі справамі. Прыклад Зьмітра Дашкевіча — таму пацьвярджэньне», — сказаў спадар Мілінкевіч.

Хвілінай маўчаньня ўдзельнікі імпрэзы памянулі сястру Васіля Быкава, Валянціну, якая неўзабаве пасьля нападу зламысьніка памерла летась у ліпені. Таксама адышлі ў іншы сьвет ляўрэаты мінулых гадоў Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Алесь Белакоз.

Паводле традыцыі, ляўрэаты атрымалі памятны дыплём і скульптуру аўтарства Віктара Копача.

Ляўрэатаў прэміі «За свабоду думкі» абірае адмысловае журы, у склад якога ўваходзяць асобы, уганараваныя гэтым званьнем у мінулыя гады. У лік намінантаў трапляюць тыя, хто найбольш яскрава праявіў сябе ў грамадзкай, прафэсійнай альбо творчай дзейнасьці на карысьць Беларусі і свабоды.

***"Радыё Свабода"***

«ПИСЬМА СЧАСТЬЯ»

# КАК ГОСУДАРСТВО НАШЛО ЗАМЕНУ «ТУНЕЯДЦАМ»

**После неудачной попытки собрать «немного» денег в бюджет с «тунеядцев», которая довела до массовых протестов, власти взялись за другую группу населения — предпринимателей.**

С 1 апреля, представителям малого бизнеса тоже начали приходить «письма счастья» — от них требуют заплатить сбор в Фонд социальной защиты населения. Причем, вновь по очень хитрой схеме.

Даже если предприниматель не вел никакой деятельности в 2016 году, он должен заплатить государству налог — более 950 рублей. Кроме того, если белорус, зарегистрированный в качестве ИП, хотя бы на день просрочил оплату сбора, государство выписывает ему штраф — и через суд добавляет еще 10-20% от неуплаченной суммы.

Как рассказала одна из сотрудниц ФСЗН в разговоре с корреспондентом «Салідарнасці», указание штрафовать всех подряд пришло «сверху». Женщина также добавила, что в этом году суды завалены административными делами в отношение ипэшников.

— Штрафов просто море синее, в прошлом году такого не было, — призналась она.

Сбор и штрафы придется заплатить даже безработным белорусам, которые зарегистрировались в виде предпринимателей, чтобы найти хоть какую-то подработку. Под ударом оказались и сезонные работники, которые зарегистрировали ИП, чтобы работать официально.

Что-то подсказывает, что простые белорусы вряд ли выйдут на площади своих городов, чтобы защитить белорусских ипэшников, а значит — чиновники получают хорошую возможность «доить» самую уязвимую часть белорусского бизнеса. Причем, без лишнего шума.

Самое печальное, что под давлением властей предпринимателей становится все меньше. К примеру, по данным на 1 февраля за год число зарегистрированных ИП в Беларуси сократилось на 19,8 тысяч. А в ситуации, когда в стране фактически исчезает малый бизнес, о выходе из экономического кризиса говорить не приходится.

**Павел Рос**
**https://gazetaby.com**

СЕРЫЯ СУІЦЫДАЎ

# «ДАЖЕ В 90-Х ТАКОГО НЕ БЫЛО»

**Зафиксирован очередной суицид на рабочем месте: повесился 22-летний работник ОАО «Речицадрев». В экспресс-комментарии «Салідарнасці» оценку происходящему на предприятиях дал председатель профсоюза РЭП Геннадий Федынич.**

Напомним, в последнее время получили резонанс несколько суицидов работников на предприятиях. Осенью прошлого года повесился слесарь на Бобруйском заводе тракторных деталей и агрегатов. В марте повесился на ОАО «Интеграл» замдиректора. В июне гомельчанка подожгла себе на проходной фабрики «Коминтерн» и спустя неделю скончалась.

— Раньше мастер знал не только имя-фамилию каждого работника, но и то, что происходит у него дома, какая материальная ситуация и т.д. То есть, работник жил в коллективе, и коллектив знал его ситуацию. А сейчас никто такой задачи даже не ставит. Если бы попытались узнать, что у них на душе, чтобы люди видели в руководстве не только начальство, но и коллег по работе. Те же идеологи вместо того, чтобы этим заниматься, выискивают работников, которые мыслят не так, как начальство и руководитель государства.

Так или иначе, предыдущие самоубийства работников на предприятиях в обществе связывали, в том числе, с материальным фактором.

— Но я не припомню, чтобы в 90-х такое происходило, — отметил Геннадий Федынич.

— И это, пожалуй, вполне объяснимо. В 90-х люди были более организованными и солидарными, а Федерация профсоюзов не была подконтрольна власти так, как сегодня. В случае возникновения проблемы она либо решалась, либо люди организовывались и делали забастовку на предприятии. А сегодня они и в официальный профсоюз не хотят обращаться, поскольку не видят там помощи, и организованно выказать недовольство не могут. В итоге люди оказываются брошенными и представленными сами себе. Никому нет дела, что у них дома. А там может быть все что угодно. И долги по кредитам могут давить, и денег на содержание семьи может не хватать, если зарплата составляет 300 рублей.

**Константин Похольчик**
**https://gazetaby.com**

ЗАЎЧАСНАЯ СМЕРЦЬ

# ДРУГ СЫНА ЛИДИИ ЕРМОШИНОЙ РАСКРЫЛ ПРИЧИНЫ ЕГО СМЕРТИ

**Александр Николаев сообщил в Facebook, что Алексей Ермошин умер в результате «естественных» причин.**

«Простились с Алексеем Дмитриевичем Ермошиным сегодня.

Как и предполагалось, смерть наступила от естественных причин и, по моему мнению, наступила от совокупности факторов.

Во-первых, Леша не был худышом, я бы сказал, он имел серьезные проблемы с лишним весом.

Во-вторых, Леша отказывался признавать необходимость заняться своим здоровьем вплотную и исключить из рациона алкоголь полностью и сесть на диету. Я ничем от него не отличаюсь, поэтому скорее всего стану следующим. Правда обо мне СМИ не напишут.

Леша не выглядел больным. Да, он был тучный мужчина, но не выглядел как человек, которого срочно надо лечить.

Однако, он испытывал сильную приязнь к своему двоюродному брату и при любой возможности гонял к нему в Бобруйск, поэтому трагическая смерть брата (которая, к слову, наступила не по его вине), как я понимаю, заставила Лешу забыть о здоровье. Стресс, крепкие поминки в Бобруйске и продолжение движения в "Мяте", где он сделал свое последнее фото, не могли не нанести серьезнейший удар по здоровью, которого Леха не перенес.

Если кого-то, кто простился с Лешей сегодня, смутил закрытый гроб, расслабьтесь. Причина в этом не травмы, не прихоть Лидии Михайловны, а элементарные посмертные изменения, которые претерпевает тело покойного в условиях повышенных температур и влажности. Тем не менее, с учетом этого обстоятельства дату смерти вероятнее всего сдвинут ближе к тем самым поминкам, о которых я упомянул выше.

Наши предположения о том, что вход на прощание будет по пропускам, не оправдались. Несмотря на присутствие высокопоставленных должностных лиц, в том числе и всеми нами нелюбимых функционеров, таких как г-жа Ананич и г-жа Щеткина, министров и их заместителей, единственным признаком их участия в прощании было наличие двух переносных знаков "остановка запрещена" и нескольких экипажей ГАИ. Ну и еще г-н Балаба, начальник ОМОН, в красивом светлом костюме и с двумя радиостанциями на поясе командовал переодетыми в гражданское милиционерами, всем нам знакомыми, которые, правда, в траурный зал не совались.

В пользу Лидии Михайловны сказалось так же то, что в общем и целом, она не стала предпринимать каких-то экстра-мер, и не стала вмешиваться в предназначенный любому рядовому покойному процесс. Тело нашего друга исследовал рядовой эксперт в рядовом учреждении ГК СЭ. Никаких тебе профессоров и моргов закрытых для обывателя медицинских учреждений.

Кроме того, Ермошина пригласила всех друзей и коллег, однокурсников и одноклассников сына почтить его память на поминках в одном заведений на ул. Мясникова.

Я отказался. Потому что эту цепочку смертей после поминок надо как-то прерывать. Да и если честно на большинство этих напыщенных официальных рож, которые Леху толком-то и не знали, я и глядеть не могу. Не то, что за одним столом сидеть. Какой бы серьезный повод для этого не был.

Алексей Дмитриевич! Покойся с миром. Я тебя сам помяну. И не раз...»

**https://gazetaby.com**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 28.06.2017 у 18.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.